# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАНА 15 КАП.

N 16

Калгасьнікі за рамонтам жняяркі.



На 2-е ПАЎГОДЗЬДЗЕ 1930 г. На 2-е ПАЎГОДЗЬДЗЕ 1930 г.

# ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА

## НА ЎСЕ ВЫДАНЬНІ БЕЛАРУСКАЙ ПЭРЫОДЫКІ

| Назва выданьняў | Характар | Пэрыодычнасьць | Умовы падпіскі: 1 м-ц | | 3 м-цы | | 6 м-цаў | | 1 год | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бальшавік Беларусі . . . | Ворган ЦК КП(б)Б. | Штомесячн. | — | 35 | 1 | 05 | 2 | 10 | 4 | 20 |
| Партыйны работнік . . . | „ „ „ | Двухтыднёв. | — | 25 | — | 75 | 1 | 50 | 2 | 75 |
| Іскры Ільліча . . . . . | Ворган ЦК ЛКСМБ | Штомесячн. | — | 15 | — | 45 | — | 90 | 1 | 80 |
| Бюлетэнь СНК . . . . . | Ворган СНК БССР | Па накаплен. матэрыял. | — | — | — | — | 2 | 50 | 5 | — |
| Маладняк . . . . . . | Літ.-мастацк. час. | Штомесячн. | — | 30 | — | 90 | 1 | 60 | 3 | — |
| Узвышша . . . . . | Літ.-мастацк. і крытыкі | На год 10 нум. | — | — | — | — | 3 | — | 5 | — |
| Сельская і лясн. гаспадарка | Ворган Інстытуту імя Леніна | На год 6 нум. | 2 | — | — | — | 2 | 50 | 5 | — |
| Савецкае будаўніцтва . . | Ворган Дзяржпляну | Штомесячн. | — | — | 2 | — | 4 | — | 7 | 50 |
| Паляўнічы Беларусі . . . | Ворг. Белпрамкооп-саюзу Паляўнічых | Штомесячн. | — | 30 | — | 70 | 1 | 20 | 2 | — |
| Беларуская работніца і сялянка . . . . . . | Ворган жанаддзелу ЦК КП(б)Б | Двухтыднёв. | — | 15 | — | 45 | — | 90 | 1 | 80 |
| Збор законаў і загадаў. . | Ворган ЦВК БССР | У 2-х аддз. | — | — | — | — | 5 | — | 10 | — |
| Шляхі калектывізацыі . . | „ НКЗ і Белкалгассаюзу | Штомесячн. | — | 20 | — | 60 | 1 | 10 | 2 | 20 |
| Комуністычнае выхаваньне. | Ворган НК Асьветы | „ | — | 80 | 2 | 30 | 4 | 50 | 8 | — |
| Наш край . . . . . . | Ворган ЦБ Краязн. | „ | — | 50 | 1 | 25 | 2 | 25 | 4 | — |
| Штэрн . . . . . . | Яўр. літар.-мастац., палітычн. часопіс | „ | — | 60 | 1 | 50 | 3 | — | 6 | — |
| Часопіс „ПОЛЫМЯ“ . | Літар., політ., экономіка і крытыка | „ | 1 | — | 3 | — | 5 | — | 10 | — |
| Часопіс „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ | Мастацка-ілюстрав. часопіс | Двухтыдн. | — | 30 | — | 75 | 1 | 50 | 3 | — |

Гадавым падпішчыкам даецца растэрміноўка на часопіс „Полымя“: пры падпісцы—4 р., 1-га верасьня—3 р., 1-га лістапада—3 р.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА**: Бюро Падпіскі БДВ, Ленінская, 19, тэл. 17-12; Цэнтр. Кнігарняй, Ленінская, 19, тэл. 95; Усімі акруговымі аддзяленьнямі БДВ; Газэтным Бюро; Аддзелам Падпіскі ГІЗ'а РСФСР і ўсімі нашымі ўпаўнаважанымі, маючымі адпаведныя пасьведчаньні.

БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

N 16

25 жніўня 1930

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 79.
Тэл. 7-41

Фото САЛАВЕЙЧЫКА



= СТАДЫЁН =
ІМЯ 10-ГОДЗЬДЗЯ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ БЕЛАРУСІ АД БЕЛАПАЛЯКАЎ У МЕНСКУ.

НАРЫС
Станіслава Івы
Фота Мазэлева

# На шырокіх загонах





СОНЦА хавалася за зубчастым сасновым лесам. Аўтобус стаў на невялічкім пляцу, абапал якога відаць былі сялянскія хаты.

— Каму да Астрашыцкага Гарадка, — прагучэў цьвёрды голас шофэра.

Невялічкае мястэчка расплылося сваімі хаткамі і домікамі паміж двух узгоркаў, на беразе ціхага возера. Будынарчкі прыліплі да зямлі і, здавалася, засыпалі ў патаемнай вячэрняй дрымоце. На вуліцы я сустрэў дзядзьку, які мне паказаў дзе жыве сакратар райкому партыі і расказаў наступнае:

— Бачыце, наша мястэчка зараз бязьлюдна. Усе яшчэ на полі. Добра будзе, калі вы знойдзеце тав. Сурбу ў хаце,— ён напэўна на полі.

— А што ў вас на полі?

— Працуем. У нас у мястэчку колгас!

— Вялікі колгас?

— А нішто сабе. У колгасе ёсьць 240 бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак разам з служачымі. Усяго 540 членаў. Зямлі ёсьць 1200 гектараў, з яе 900 добрае пахаці і 150—заліўнога лугу.

— А вы, дзядзька, у колгасе?

— У колгасе. Я адным з першых запісаўся,—адказаў з нейкай радасьцю.

— Ну вось гэтым завулачкам зойдзеш да хаты тав. Сурбы.— Мы заняліся гамонкай і ледзь не прайшлі ўсё мястэчка. Неяк не хацелася расставацца з высокім касьцьлявым чалавекам, які так ветліва апавядаў пра жыцьцё ды працу ў колгасе. Ён глянуў на ўзгорак. З узгорка зьяжджаў гуж фурманак.

— Ну, бывай, хлопцы з поля едуць,—пайду—трэба коні дагледзіць.

З узгора ступою зыходзілі, памотваючы галавамі, стомленыя коні. І раптам у густым, вільготна-цёплым паветры праплылі гукі.

„Комунараў сям'я
Сабірайся цясь-сьне-ней-й!..“

Я адчыніў дзьверы невялікага доміка. Чалавек у кутку стаяў нахіліўшыся над жалезным бачком.

— Добры вечар!—прывітаўся я.

Чалавек разагнуўся. Стаў. На яго твары адбівалася спакойнасьць. Рукавы сарочкі былі засуканы вышэй локцяй. З пальцаў зьбягала зялёна-чорнаватая вадкасьць.

— Выбачайце, тав. Сурба тут жыве?

— Я, ён самы і ёсьць,—адказаў ветлым голасам, захоўваючы спакойнасьць т. Сурба.

— Я, бачыце, заняўся справай,—праводзячы мяне ў другі пакойчык, гаварыў ён,—мыю элемэнты для радыё-ўстаноўкі. Учора крыху кіслаты на іх трапіла.

Праз некалькі хвілін ён скончыў сваю працу, выцер ручніком рукі, прымайстраваў нейкую скрыначку ў кутку і рэпродуктар пачаў раскідаць па пакойчыку гучную гамонку. Гаварыў Менск.

— Ну, вось і ўсё, а цяпер пагамонім,—раптам абарваў гутарку.

З рэпрадуктара вылецелі словы: „Зараз паслухайце, таварышы слухачы, радыё-зводку з фронту колектывізацыі“.

Пералічваліся раёны Меншчыны, т. Сурба напружана слухаў.

„У Астрашыцка-Гарадзецкім раёне колектывізавана 25 процантаў бядняцкіх і лепшых серадняцкіх гаспадарак на плошчы 35 проц. ад агульнай зямлі раёну. Ёсьць шмат колгасаў, у якіх прыкладна арганізавана праца. Буйны колгас „Новы Шлях“ абвясьціў сябе ўдарным“:

Тав. Сурба пачаў першы.

— Раней наш раён лічылі слабым. У акрузе меркавалі рэорганізаваць яго... А зараз зусім другое гавораць. На сёньня мы маем шмат узорнага, добрага. Колгасы замацавалі. Хваліцца я ня ўмею,—сам паглядзіш. Перагібаў у нас вялікіх ня было, а ў паасобных выпадках, калі той або іншы таварыш ня змог справіцца так як трэба, выпраўлялі яго памылкі зараз-жа.

— Дробнай жывёлы ды птушак, у нашым раёне ніхто не абагуліваў.

— У колгасы прымалі толькі тых, хто жадае і можа быць колгасьнікам.

— У справе колектывізацыі захоўвалі поўную дабраахвотнасьць сялян.

— Прымусовых мер ня ўжывалі.

— На базе колектывізацыі пры шырокім удзеле батракоў і беднаты правялі раскулачваньне і ліквідацыю кулацтва як клясы.

Толькі дзякуючы такім установкам, невялікая па колькасьці партыйная організацыя, якая налічвае ў сваіх радох 90 членаў і кандыдатаў, змагла сапраўды стаць на чале кіраўніцтва раёнам. Партыйная організацыя сапраўды аўладала энтузіязмам мас і накіравала гэты энтузіязм па правільнаму рэчышчу,—соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

Тав. Сурба шмат расказваў аб добрым, узорным, якое пераплецена гісторыяй з вялікімі цяжкасьцямі і перашкодамі. Гаварыў і аб дрэнным, адмоўным. Ён закурыў, глянуў у вакно і сказаў.

— Ах шыбенікі, ня справіліся з поля прыехаць, адпачыць, а ўжо за лодку бяруцца. Моладзь і стомы яны не адчуваюць!

З возера далятали гукі гармоніка. Монотонна шумеў млын і ціхі шорах даносіўся з маўклівага сасновага бору, які засынаў, ахутаны шэрым вільготным змрокам. На возеры плыла лодка. Плялёскаліся ў ціхай вадзе дзьве пары вёсел, на лодцы гаманілі дзяўчаты, рагаталі хлопцы. Нехта падпяваў пад гармоніка прыпеўкі. Пачынала цямнець.

* * *

Пад'яжджаем да колгасу „Новы Шлях“. Грукацяць колы па веснавой, яшчэ ня зусім укатанай дарозе. А дарога, быццам вілёністая вутачка, уецца, уцякае паміж узгоркаў, вузкіх стужак-палосак зялёнага жыта, ды шырокіх шэрых загонаў.

Зьехалі з узгорка. Пераехалі грэблю і на шырокім полі парка за паркай поўным роўнамерным крокам 40 коняй цягнуць бараны. Адразу кідаецца ў вочы,—10 чалавек упраўляюць 40 коньмі. За ўсё сваё жыцьцё я ніколі ня бачыў на сялянскай гаспадарцы гэтага. Я бачыў іншае. Як па вузкай палосцы-матузку беднякгаспадар ня мог зьвярнуцца з сваім слабым канём. Ён ставіў каня, браў на плечы барану і перастаўляў ворчыкам у другі бок, потым амаль на месцы заварочваў каня. Перашкаджалі



**НА ПАБУДОВЕ ДАМБЫ** (Віцебская падстанцыя Асінбуду).

# КАЛЯ ЛЁКОМОБІЛЮ

## ЗАВОД „ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА“ (МЕНСК)



ФОТО ФРЫДМАНА

# Ружовае сьвятло

Апавяданьне АВАЛ.ВА

Малюнкі Я. РАЗАНАВА

I

БУРАК рашуча адклаў у бок варстатку.

— Чорт ведае, што такое!—сказаў ен.

— Пра што гэта ты?—запытаўся, узьнімаючы галаву, Зубрылін. Мікіта Іванавіч выцер палою халата запацелы лоб, злосна схапіў аўтэнтык, які ляжаў каля яго, і зьмяў паперу, сьціснуў у кулак.

— Ты што набіраеш?—зьвярнуўся ён да Зубрыліна.

— Каляндар,—зьдзіўлена адказаў Ціхан Пятровіч.

— Каляндар, дык каляндар, але які?

— Вядома—„крестовый".

— Дык вось гэта і самае!—злосна ўскрыкнуў Мікіта Іванавіч.—Што друкуем! Падумаць толькі, што мы друкуем!

— Ну, та чаго ты распаліўся?—няўцямна запытаўся Ціхан Пятровіч.

— Як тут не распаліцца! От ты ў партыю паступіў, а работаю пацікавіцца ня хочаш.

— Я ня хочу?—абразіўся Ціхан Пятровіч. — У такім разе я і гаварыць з табой не хачу.

— Зноў ты мяне не зразумеў, — нездаволена пачаў тлумачыць Мікіта Іванавіч.— Хто ня ведае, што ты ў нас першы пра якасьць размову пачаў... Няма чаго і казаць, друкуем куды лепш... Толькі што друкуем?

Ён з нечаканай сілай у голасе ўсклікнуў.

— На сваю галаву друкуем!

Наборшчыкі, што працавалі з Бураком поруч, прыслухоўваліся.

— Вы паглядзеце, хлопцы,—сказаў Мікіта Іванавіч зьвяртаючыся да ўсіх. Каляндары „крестовые", евангельлі, усякія псальмы ды кантычкі... Не пасьпее гэта з друкарні выскачыць, як назаўтра-ж супроць нас зьвернецца.. Эх, дзе толькі вочы ў вас!

— Там-жа дзе і ў цябе,—груба адказаў Істомін.

— Та-та і дата,—без абразы згадзіўся Мікіта Іванавіч.

— Не, ён праўду, хлопцы, кажа, дальбо праўду. — задумліва працягнуў Зубрылін: — самі пра папоў тых гаворым, гаворым і самі-ж іхнай агітацыі дапамагаем... Ці-ж гожа так!

— Правільна сказаў,— падтрымаў яго Істомін.

— Як хочаце, а я дык канчаю займацца гэтай музыкай,—рашуча заявіў Мікіта Іванавіч, падыходзячы да мэтранпажа

— Чуеш, Краўчанка,—сумысьля голасна крычаў ён:—я кідаю гэту работу і катэгорычна заяўляю—падобнае дрэні больш вярстаць ня буду.

II

У наборную прыбег Чаброў.

— Зноў буза!—закрычаў ён яшчэ ў дзьвярах.

Потым ён падышоў да Бурака, адвёў яго ў куток і зашаптаў яму ў самае вуха, нездаволена і навучальна:

— Хоць ты, Мікіта Іванавіч, чалавек сьвядомы, і член бюро, але робіш не па правілах. Як твае паводзіны назваць? Вытворчую дысцыпліну зрываеш. Ясная справа.

— Кінь ты мне на вуха бязглузьдзіцу прастарэкаваць!—разлавана ўсклікнуў Бурак.—Мая праўда, разумееш?

Заўсёды стрыманы Мікіта Іванавіч павярнуўся да Чаброва і злосна яго перадражніў:

— Бу-за-цёраў знайшоў! Калі ты ў свае жонкі псальмы знойдзеш—выкінеш? Выкінеш, сукін сын! А для чужых жанок друкаваць хочаш?

— Але-ж мы за гэта атрымліваем грошы,—прапяяў мяккі галасок Гусарэвіча, які зьявіўся ў наборную.

— Ці мала чаго мы атрымліваем,—заспрачаўся Мікіта Іванавіч:—ангельцы табе таксама плаціць, толькі-б савецкую ўладу скончыць... Таксама пачнеш старацца?

— Недарэчнае параўнаньне выбраў, — упутаўся ў спрэчку Чаброў, зноў нахіліўся да вуха Бурака і зашаптаў: — Гусарэвіч — член бюро, а ты яго перад масай дыскрэдытуеш.

— Адчапіся ты ад мяне, зрабі ласку! — яшчэ больш раздражнена закрычаў Мікіта Іванавіч.

Тымчасам Краўчанка пасьпеў зьбегаць да дырэктара ў габінэт і Бранцаў, як звычайна, пасьпяшаўся прысьці, спыніць, уціхамірыць, а калі трэба, дык і адлаяць тых, што счапіліся ў спрэчцы.

— Зноў у часе працы размова?—напусьціўся ён на Чаброва. — От, гляньце, Васіль Васільлевіч тут Бурак бузу зацёр...

— Кінь, кінь—перапыніў Зубрылін Чаброва, цягнучы яго за рукаў.

— Думаецца мне, няпрыстойна ў савецкай друкарні папоўскае барахло друкаваць?—напорыста заявіў Мікіта Іванавіч.

— Мабыць, правільна гэта..—задумна праказаў Бранцаў і зараз-жа рашуча згадзіўся: — правільна. Больш такіх заказаў прымаць ня будзем.



— А гэта бачыў?—сказаў Зубрылін баптысту і паказаў дулю.



Тут, ля крыжа было чалавек 60.

— А каляндар „крестовый“ надрукуем?—карыстаючыся падтрыманьнем Бранцава, задзёрыста прычапіўся да яго Бурак.

— Прыдзецца...—нерашуча працягнуў Васіль Васільлевіч.— Заказ ужо аплачаны...

— Ясная справа, прыдзецца, паколькі грошы атрыманы,— аўторытэтна паўтарыў Гусарэвіч.

— А от ня трэба было-б,—не згадзіўся Мікіта Іванавіч.

— От праўда, лепш-бы грошы зьвярнуць,—дапамог яму сваёй парадаю Зубрылін.

— Правільна,—узрадаваўся Бурак.—Пашлем заказ назад от і ўсё!

Васіль Васільлевіч, які ня любіў адцягваць вырашэньня пытаньняў, заўважыўшы балбатаньне Гусарэвіча, што бурчэў сабе пад нос, пра бесгаспадарчасьць, парашыў раз і назаўсёды пакончыць з гэтай справай.

— Мо' на схоп льıтаньне перанясем?—прапанаваў Бурак.

— Так, так! Грошы на падлозе не ляжаць... Пагаворым на сходзе,—ухваліў прапанову і Гусарэвіч.

Васіль Васільлевіч пацепаў плячыма.

— Навошта?—казаў ён,—мы і бяз сходу вырашым.

— Хвілінку ўвагі!—крыкнуў ён на ўвесь наборны цэх —Таварышы, Бурак уносіць прапанову з сёнешняга дня адмовіцца ад друкаваньня рэлігійнае літаратуры. Ён лічыць, што шкода, якую яна прыносіць, не пакрываецца тымі грашыма, што мы за яе атрымліваем.

— Правільна?—нахіліўся ён да Бурака.

— Зусім справядліва,—задаволена прагудзеў Мікіта Іванавіч.

— Значыцца,—крыкну Бранцаў,—я без усялякіх спрэчак стаўлю пытаньне на галасаваньне. Хто за прапанову Бурака— падымеце рукі.

І амаль усе наборшчыкі падтрымалі Бураковую прапанову.

III

Гнядая жарэбная кабыла, якую падбадзёрвалі лянівыя падхлістваньні вяровачнае рамізьніцкае пугі, абыякава трухала, адмахвалася ад седакоў аблезлым рэдкім кароткім хвастом, падобным на валасы жанчыны, што прахварэла на тыфус.

Зубрылін і Латышоў выконвалі даручэньне філатаўцаў адвазілі баптыстым атрыманы ад іх заказ.

— Пагняй, паганяй,—сьпяшаў Латышоў рамізьніка.

— Ды ўжо-ж і так ганю... паночку,—нездаволена адказаў рамізьнік, рэжучы паветра пугаю.

— Чуеш,—панок?—усьміхнуўся Латышоў, штурхаючы Ціхана Пятровіча.

— Дом трыццаць сем,—паказаў рамізьніку Зубрылін.

Рамізьнік зашамцеў губамі, прытрымаў лейцы і кабыла пашла ціха ад дому да дому.

— Тут,—сказаў Ціхан Пятровіч, убачыўшы патрэбны нумар.

— Так-бы ты прошта і жгаварыў,—зашамцеў рамізьнік,—а то трыччаць шем, трыччаць шем... і ўшё гэтак: еджь, кажа, на Шадовую, а там жгаворым куды... шкажаў-бы прошта—у маліцьвеннае завядзеньне.

Вокны доўгага двухпавярховага дому былі прыкрыты шчыльнымі белымі фіранкамі. Ружаватае сьвятло і глухаваты працяжны сьпеў выплывалі на вуліцу.

Латышоў моцна пастукаў у дзьверы.

Ніхто не адказаў.

Латышоў пастукаў зноў.

Дзьверы, як і раней, не адчыняліся.

Тады ён з усяе моцы забарабаніў нагой у дзьверы. Ад моцнага стукату яны расчыніліся — дзьверы былі не запёртыя.

Насустрач ім сьпяшаў чорнабароды пажылы мужчына ў каптане і ботах.

— Уваходзьце, уваходзьце, брацьці,—вітаў ён іх,— толькі навошта ўзьнімаць такі гармідар.

— Грамадзяніна Паўлава можна пабачыць?—запытаўся Ціхан Пятровіч.

— А вы па якой справе?—ветліва пацікавіўся чорнабароды мужчына.

— Па такой!—нахабна адказаў Латышоў.—Паўлава паклічце.

— Пачакайце, брацьці,—пачціва заявіў чорнабароды:—пойдуць зараз паклічуць брата Мікалая. Пачакаць вам прыдзецца...

Ён адышоў у бок да жанчын, што стаялі каля зьвярэй, пашаптаўся і адна з іх вышла.

Зубрылін і Латышоў прытуліліся да сьцяны і аглядзелі пакой. Памяшканьне было прасторнае, сьцены з нефарбаванага цёсу яшчэ захоўвалі здаровы пах сасновае смалы, нізкая, абклееная глянсавай белаю папераю, столь не паглынала сьвятло дзьвюх вялікіх вісячых, пакрытых ружовым абажурам ламп. Сьцены былі аздоблены склеенымі з каляровае паперы лёзунгамі пра шкоднасьць курава і пітва. У глыбіні супроць уваходных дзьвярэй вісеў вялізны чорны крыж, які выразна вылучаўся на сьветлай сьцяне. Пад крыжам стаялі грубае работы кухонны стол і некалькі крэслаў, а далей, амаль да самых дзьвярэй, шэрагамі цягнуліся простыя, драўляныя лаўкі. Калі-б ня прысутнасьць крыжа, увесь пакой быў-бы падобны да прыстасаванае пад паседжаньне вялікае клясы ў вясковай школе.

У памяшканьні знаходзілася чалавек шэсьцьдзесят. Тут былі пажылыя, сталыя, сьціпла апранутыя ў шэрыя і чорныя адзеньні жанчыны, дзяўчаты ў модных, кароткіх, пярэстых спадніцах, што падмалявалі сабе губы і весела пераглядваліся з наўмысна сур'ёзнымі фартаватымі юнакамі, якія стаялі крыху воддаль ад іх. Асабняком трымалася некалькі дарослых у каптанох і кашулях мужчын. Адны з прысутных сядзелі, другія стаялі, трэція павольна хадзілі па пакоі,—некаторыя ціха размаўлялі, большасьць цягнула жаласьлівы нявыразны напеў. Усё разам напамінала сямейную вечарыну ў савецкай установе, хоць і ня дужа ўдалую, але якая ідзе сваім парадкам.

Раптам Ціхан Пятровіч заўважыў, што Латышоў ціханька мурмоча мотыў песьні, якая пяецца ў залі.

— Ты што гэта?—перапыніў ён свайго спадарожніка.

— Ух, ты, д'ябал!—замяшаўся Латышоў.

— Вось гэтак яны і дзейнічаюць,—навучальна растлумачыў Ціхан Пятровіч:—зацягнуць чалавека, падпяваць прывучаць, а там глядзіш і падпявала іншых вучыць пачаў.

— Чым магу быць карысным?—пачуўся за іх сьпіною ўедлівы, але цьвёрды голас.

Друкары павараціліся.

Перад імі стаяў нявысокі, у шэрым каптане, у сьціплым вязаным малінавым гальштуку, бухгальтарскага віду, чалавек.

— Вы грамадзянін Паўлаў?—запытаўся Зубрылін.

— Вашы творы назад прывезьлі, ня будзем друкаваць,— умяшаўся ў гутарку нахмураны Латышоў.

Ціхан Пятровіч растлумачыў:

— Мы з філатаўскае друкарні. Рабочыя пастанавілі заказаў ад вас больш ня прымаць, а прынятыя ня выконваць.

— Але-ж грошы за іх атрыманы,—ветліва засупярэчыў Паўлаў.

— А грошы заўтра можаце ў канторы назад атрымаць,— злоў умяшаўся Латышоў і працягнуў Паўлаву пачку прывезеных аўтэнтыкаў.

— Калі ласка, калі ласка, — несправачаючыся згадзіўся Паўлаў.

— І ўсяго вам лепшага,— груба прабурчэў Латышоў, насоўваючы на лоб кепку.

— І вам таксама,— ласкава адказаў Паўлаў.

Друкары падыйшлі ўжо да дзьвярэй, як баптысты дагнаў іх, забег наперад і з просьбаю шопатам запрапанаваў:

— Куды вы сьпяшаецеся, брацьця?.. Пасядзеце, адпачнеце, сьпеў паслухайце...



— Гэй, — крычыць чалавек курцом,—вам да заўтра чакаць запалак, а ў мяне ўжо гарыць.

— Ён ужо і так наслухаўся,—сказаў Зубрылін, паказваючы на Латышова,—пасядзіць яшчэ—зусім баптыстым зробіцца.

— Ну, ну! — паграджальна буркнуў Латышоў і пасьпешна вышаў за дзьверы.

— Два словы яшчэ,—затрымаў Ціхана Пятровіча баптысты:— ці ня здолелі-б вы надрукаваць нашы кніжкі як-небудзь так, паміж сабою?..

— Як гэта так?—уважліва спытаўся Зубрылін.

— Вось вы насьценную газэту друкуеце... Гэта-ж у непрацоўны час. Мы-бы вам заплацілі... Добра заплацілі-б... І паперу дасталі-б.

Ціхан Пятровіч з-пад ілба паглядзеў і захацелася яму груба, па-дзяцінску адказаць хітраму і ласкаваму баптыстаму.

— А гэта бачыў?—і Зубрылін паказаў фігу.

— Як хочаце, як хочаце,—пакорна сказаў Паўлаў, забягаючы наперад і расчыняючы перад Зубрыліным дзьверы.

## IV

— Паперы няма і ад паперы адмаўляемся,—нездаволена заўважыў Гусарэвіч.

— Гэта ад якой такой паперы?—запытаўся Раздумін.

— А ад гэткае: баптыстскі заказ памятаеш?

— Ну.

— Дык яны і паперу прапанавалі дастаць... От і была-б работа.

— Ёсьць такая баечка,—пачаў ні да кога не зьвяртаючыся Бялых.—Жыў-быў чалавек, вучаны-перавучаны. І захацелася чалавеку закурыць папяроску. Дастаў кісет, бібулку, скруціў цыгарку, глядзіць, а запалак няма. Апрануўся ён, пашоў у коопэратыў, а там народу, народу, сьвету такі ня відаць і ўсе за запалкамі.—У чым справа?—пытаецца.—А ў тым,—адказвае прадавец,—што адбылася нястача запалкавага тавару, пачакаць прыдзецца крыху з палівам.—Як гэта так,—кажа той чалавек,— а калі мне курыць, аж цярпець немагчыма, хочацца.—Ці мала чаго хочацца,—адказвае прадавец,—пачакай да заўтрага да душы накурышся...—Раззлаваўся чалавек, перайшоў цераз вуліцу, увайшоў да сябе ў хату, узяў шкелка павялічальнае ды ўзьлез на страху. Вылез, паглядзеў як каля коопэратыву курцы стаяць і ў кожнага ў роце цыгарка, і кожнаму запаліць яе няма чым, засьмяяўся і закрычаў:—Эй, вы, дурні нявучаныя, глядзеце, які я разумны. Вы запалак да заўтрага чакаць будзеце, а я сёньня адукаваным спосабам агонь здабуду.—Глядзяць людзі, сапраўды, чалавек павялічальнае шкелка на сонца накіраваў і супроць цыгаркі трымае. Ляжыць сабе ды радуецца. Цыгарка дыміцца. А ён таго не заўважвае, што ад заду салома на страсе таксама курыцца ды курыцца:—гэй,— крычыць чалавек курцом,—вам да заўтрава чакаць, а ў мяне ўжо курыцца...—Зацягнуўся пахучым тытуном, абараціўся. глядзіць уся страха полымем палае. Замітусіўся чалавек,— улева кінуўся—далёка ад зямлі, саскочыш—ногі паламаеш управа кінуўся—агонь—жыўцом згарыш. Заплакаў чалавек загаласіў:—дапамажэце, людзі добрыя, гіну.—Ды дзе-ж тут ужо дапамагчы—хата, бы сьвечачка, палае, падступіць да яе жаднае магчымасьці няма. Бялых замаўчаў.

— Ну і што-ж?—запытаўся зацікаўлены Раздумін.

— Згарэў чалавек... Не хацеў да заўтрага пачакаць. Людзі чакалі, нічога, а яму от зараз-жа ў тую-ж хвіліну тытуном паласавацца... А таго не заўважыў, што ад сродку яго неасьцярожнага ня толькі цыгарка, але і страха загарэлася і ўвесь дом згарэў, дом згарэў і сам у ім загінуў...

— Майстар, майстар, ты на апавяданьні, няма чаго спрачацца,—пахваліў яго Гусарэвіч.—Ды толькі да чаго ты гэта?

— Ды ўсё да таго-ж,—усьміхнуўся Бялых.—Усё сыцейшым жыць хочаш... А таго не разумееш—баптысцкая кніжачка такой шкоды наробіць, куды той пажар.



# У РАБОЧЫМ КЛЮБЕ

Фото Ул. Семянякі



Рабочыя харчавікі на „зарадцы" у сваім клюбе, у Менску

# НА ШОСТУЮ СТЫХІЮ

**У** СТУПІЎШЫ разам з сваім войскам на беларускую тэрыторыю, Напалеон сказаў:

— Дагэтуль я ведаў толькі пяць стыхій, зараз я даведаўся і пра шостую стыхію, гэта—балоты.

Нашы балоты спалохалі нават гэткага волата, як Напалеон.

І сапраўды. усіх забалочаных зямель у БССР лічыцца 2.660.000 *га*, ці каля 21,2 проц. усёй яе тэрыторыі. Галоўная маса балот БССР знаходзіцца ў басэйне ракі Прыпяці і часткова ў нізоўях Бярозы і Дняпра, складаючы сабою Палесьсе ў паўднёва-заходняй частцы БССР. Без правядзеньня мэліорацыі зямель немагчыма культурнае будаўніцтва гэтых раёнаў. Мэліорацыя мае надзвычайна вялікае значэньне, як крыніца энэргіі: торф, як апал, зойме надзвычайна вялікае месца ўжо ў самую недалёкую будучыню. Торф наблізіць да сябе новыя прамысловыя цэнтры, якія бязумоўна будуць будавацца блізка каля таннага апалу.

Гэтым тлумачыцца тоё, што Саюзны ўрад надаў усесаюзнае значэньне справе мэліорацыі БССР, бо так званая ўнутраная колёнізацыя, гэта значыць асушваньне і засяленьне былых балотаў, ня толькі зьнішчыць нашу аграрную перанаселенасьць, але і павялічыць соцыялістычны сэктар у нашай сельскай гаспадарцы. Асушаныя Мар'інскія балоты ўжо ў бліжэйшыя гады будуць індустрыяльным цэнтрам.

Тысячы *га* раней непраходнай дрыгвы становяцца квяцістым, пышным полем.

Колькі гэтых скэптыкаў было. Ня верылася, няўжо-ж на балоце што-небудзь людзкае выйдзе? Здавалася, што ня толькі паляшукі, але нават балотныя жабы і тыя ціха пад купінамі сьмяяліся з тых, хто спачатку рыдлёўкамі, пасьля ўсякімі складанымі машынамі пачалі балота ўздымаць. Але новы гаспадар—пролетарыят ня спужаўся таго, што спужала Напалеона. Прышлі новыя людзі, адважныя, упартыя, якія ня спыняюцца перад перашкодамі і... закавалі ў ланцугі адвечныя балоты, выцягнулі адтуль шматвяковую стаячую ваду, пусьцілі яе па спэцыяльна раскапаных каналах, узаралі зямлю і ўжо ў першы год зьнялі ўраджаю 40 *цнт* (250 пудоў) з гектара.

Вось, так званы экскаватар—зямлячарпалка. Замест дзесяткаў людзей, гэтую сапраўды эгіпэцкую працу выконвае зямлячарпалка. Гэта яна зубамі свайго чарпака ўграецца ў балота, вырывае цэлыя тоны зямлі, для таго, каб раскапаць канал па простай лініі. Гэтае вялізарнае страшыдла насоўваецца на балота з гэткім грукатам, што самыя вялікія карчы ня вытрымліваюць яе націску і выцягваюцца на паверх. І гэтак кожны дзень ад дзе-

сятку гектараў да сотні, ад сотні да тысячаў—пераможным наступам пролетарыяту адваёўваюцца новыя гектары для соцыялістычнага земляробства, для колектывізаванай вёскі.

У Мар'іне, Бабруйскай акругі праводзяцца работы на тэрыторыі ў 8.000 гектараў, у басэйне ракі Арэсы, дзе ёсьць для колёнізацыйнага фонду 58.000 гектараў. Па пяцігодцы мяркуецца асушыць 540.000 гектараў забалочаных зямель, на што будзе выдадзена больш за 60.000.000 р. Паказанае створыць цэлую рэволюцыю ў Палесьсі і цалкам зьменіць твар гэтага раёну.

Дзесяткі трактараў ужо сёлета ўзаралі былыя балоты. Сотні трактараў хутка пойдуць па ўсіх гэтых калісь непраходных балотах для таго, каб разам з гарапашным сялянствам дасягнуць Новую Зямлю, дзе ня будзе ні бедных ні багатых, дзе будзе—соцыялізм.








Нарыс Г. РУГЭРА ...... Малюнкі Б. М.

МАЛЕНЬКІ, даволі чысты гарадок Ньюмаркэт, у адлегласьці на гадзін дзьве язды ад Лёндану, сам сабою ня вельмі чым і вызначаецца. Тут няма ні гігантаў-заводаў, ні вялікіх дамоў-небаскробаў, ні паркаў ці сквэраў, што хоць-бы крыху зьвярталі на сябе ўвагу. А між тым Ньюмаркэт вядомы ня толькі ва ўсёй Англіі, а нават і за межамі яе, ва ўсякім выпадку сярод „джэнтльмэнаў спорту", сярод аматараў скакавых коняй і профэсыяналаў-жокеяў.

Кожны год на скачкі ў Ньюмаркэт зьяжджаюцца з усіх канцоў Эўропы і Амэрыкі аматары спорту, моцных адчуваньняў і лёгкае нажывы. З усялякімі выгадамі і асьцярогаю перавозяць праз Ляманш, а то і праз акіян пародзістых, у шмат дзесяткаў тысяч залатых рублёў скакуноў. Працуе таталізатар, робяцца вар'яцкія заклады, прайграваюць і выйграваюць на працягу некалькіх мінут цэлыя маёмасьці.

У дні скачкоў звычайна такі ціхі гарадок ажывае. Сотні аўтомобіляў і экіпажаў зьяжджаюцца з усіх канцоў да прыгожа пабудаванага іподрому. Спэцыяльныя цягнікі з Лёндону, Ліверпуля, Дуўру і Суатчетона адзін за адным падвозяць дзесяткі тысяч гледачоў, што шукаюць моцных адчуваньняў... Падумаць толькі! Сам „яго вялікасьць кароль" прысутнічае на Ньюмаркэцкіх скачкох, „сам прынц Уэльскі"—насьледнік Вялікабрытанскага караля іншы раз прымае актыўны ўдзел у гэтых „джэнтльмэнскіх" скачкох.

А пасьля жыцьцё ў Ньюмаркэце зноў замірае. Замірае да наступнага году—да адчыненьня чарговага конскага спаборніцтва.

* * *

Але ў 1919 г. ня толькі славутыя скачкі прыцягнулі ўвагу нават ангельскага парляманта да невялічкага Ньюмаркэту. Сюды было прывезена каля дзьвёх тысяч расійскіх белагвардзейскіх афіцэраў, з Нямеччыны, з Францыі і іншых краін. Афіцэраў разьмясьцілі ў Ньюмаркэцкіх лягерах, паапранаўшы з галавы да ног у ангельскую ваенную форму. Афіцэраў кармілі, паіл, давалі ім на „дробныя выдаткі" па два з паловаю ангельскіх фунтаў стэрлінгаў (25 руб. на нашы грошы) у тыдзень... Ангельцы умеюць быць шчодрымі, калі гэтая шчодрасьць можа прынесьці ім карысьць, калі гэтая шчодрасьць служыць іхным інтарэсам. А ў даным выпадку, як арганізоўваўся ў 1919 годзе расійскі белавардзейскі лягер у Ньюмаркэце, выгада ад гэтае шчодрасьці была дубальтовая. Папершае, у Ньюмаркэцкім лягеры перавучваліся і падрыхтоўваліся кадры белагвардзейскага афіцэрства для арміі Калчака, Юдзеніча, Мюльлера, Врангеля... Падрыхтоўваліся кадры для тых армій, якія служылі інтарэсам ангельскага капіталу і ў выпадку перамогі якіх над бальшавікамі можна было і ангельскім капіталістым разьлічваць на вялі-



Займаліся п'янкамі і канчалі жыцьцё самагубствам...



... Больш не патрэбны былі расійскія афіцэры ангельскім панам.

кую пажыву. Гэта, як кажуць, надзея на будучае, політыка, як кажуць, далёкага нумару. Але ў гэтай ангельскай шчодрасьці быў разрахунак і больш непасрэдны. Справы ў тым, што арміі Дзянікіна і Врангеля займалі поўдзень Расіі і ўсход Каўказу, а адтуль вельмі моцна пахла нафтаю. Тое самае можна сказаць і пра поўнач Расіі, дзе тады дыктатарстваваў белагвардзейскі генэрал Мюльлер, і дзе таксама былі і добрыя будаўнічыя лясы і прыгожыя зьвярыныя шкуры... Чаго-ж лепшага? Пасьля імпэрыялістычнае вайны асталося шмат гармат, снарадаў, зброі, ваеннага абмундзіраваньня. Гэта ўсё у абмен за нафту, за лес, за пушніну было так выгадна і зручна прадаваць белагвардзейцам. Тым больш, што на канчатковы разгром пролетарскае рэволюцыі ў Расіі вельмі спадзяваліся і ангельскія капіталістыя, тым больш, што перамога белагвардзейцаў над рэвалюцыяй была-б іншаю перамогаю.

Афіцэры Ньюмаркэцкага лягеру, звычайна, як і ўсе белагвардзейскія афіцэры, чакаючы свайго адпраўленьня на адзін з антыбальшавіцкіх фронтаў, п'янствавалі (балазе на п'янства грошы давалі), начамі „рэзаліся ў жалезку", ад нуды вывучалі ангельскую мову і фліртавалі з ньюмаркэцкімі паненкамі. Настрой быў, у агульным, ня гледзячы на п'янства і танцы, хутчэй пахмуры, чым бадзёры. Быў такі пахмуры, што два маладыя паручнікі скончылі ў Ньюмаркэце жыцьцё самагубствам—адзін павесіўся, другі застрэліўся, пакінуўшы запіску, што «жыцьцё надакучыла», што „змагацца мы ўтаміліся" і што „на перамогу няма больш надзеі". У вогуле, бадай нікому не хацелася ўжо ехаць на фронт, а варочацца да бальшавікоў баяліся.

Між тым у лягеры энэргічна працавала белагвардзейская і ангельская контр-разьведка. Тайные і яўныя агенты сачылі за афіцэрамі, уважліва прыслухоўваліся да гаворак, адказваючы аба ўсім у лягерную комэндатуру. Западозраных у бальшавізьме, ці хоць у маленькім спачуваньні бальшавіком арыштоўвалі, адпраўлялі ў Лёндан, адкуль тыя ўжо не варочаліся. Іх браў пад сваю апеку ангельскі „Інтэлежэнс Сэрвіс"—організацыя, што дасканала валодае спосабамі прымаць з дарогі тых, якія чаму-небудзь непатрэбны.

* * *

А падзеі ішлі сваёю чаргою. Разгромлены і расстрэлены Калчак, з ганьбаю адкаціўся ад Петраграду Юдзеніч, пасьпешна эвакуяваўся ангельцамі Мурманск і Архангельск. Ня менш сумныя весткі прыходзілі да белагвардзейцаў з поўдня Расіі. Зьмяніўшы

разгромленага Дзянікіна, Урангель цярпеў у сваю чаргу паражэньне за паражэньнем, ягоныя караблі ўжо стаялі напагатове, каб з першаю весткаю пра эвакуацыю пакінуць порт Адэсы і Сэвастопаля.

Усе гэтыя падзеі знайшлі свой жывы водгук і на высьпе „туманнага Альбіёну". У парляманце пачалі пагаварваць пра нязручнасьць трымаць каля Лёндону белагвардзейскі лягер, траціць народныя грошы на ўтрыманьне афіцэраў. Такая перамена ў настроях парляманту, што да гэтага часу нават не заікаўся пра ньюмаркэцкі лягер, мела свае вельмі важкія прычыны. Папершае—справа белагвардзейскіх генэралаў прагарала—значыць наўрад ці можна было спадзявацца за пазычаныя мундзіры выпампоўваць каўкаскую нафту. А ў такім выпадку няма рахубы выдаваць белагвардзейцам ангельскіх мундзіраў. Гэтыя мундзіры з вялікім посьпехам і за чыстую манету можна было прадаваць у Палестыну арабам, папярэдне нацкаваўшы іх на яўрэяў, на кітайцаў ці на афрыканцаў. Падругое—ангельскія мілорды ўжо ў той час намацвалі троху грунт для комэрцыйных зносін з бальшавікамі. А згадзецеся самі, што ўсё-такі крыху ніякавата было рабіць перамовы з Ліцьвінавым ці з Красіным, маючы пад бокам ньюмаркэцкі лягер.

І вось аднойчы прышло ў Ньюмаркэт распараджэньне: ліквідаваць у тры дні белагвардзейскі лягер, адправіўшы афіцэраў (іх там было каля 500 чал.) на фронт да Урангеля.

— Дазвольце...—захвалявaліся афіцэры,—грамадзянская вайна канчаецца, Калчак расстрэляны... урангелеўская армія ўцякае і садзіцца на параходы. Чаго нам, уласьне кажучы, ехаць?

Ангельцы толькі ўсьміхаліся на такія наіўныя пытаньні „ньюмаркэтцаў".

Ня было-ж больш нафты ў Урангеля, каб прадаваць яе за дарма... дык не патрэбны больш і паны расійскія афіцэры ў Вялікабрытанскім каралеўстве.

Яны толькі паставілі ўзмоцненую варту вакол лягеру, каб ня даць „паном афіцэрам" уцячы ў Лёндон, пакуль не адыйдзе на поўдзень параход.

А ўрэшце, невялічкай купцы „ньюмаркэтцаў" удалося ашукаць пільных вартавых і на нанятых аўтомобілях уцячы ў Лёндон. Рэшту ангельцы, амаль з вартаю, пасаджалі на параход і адправілі далей ад берагоў туманнае Вялікабрытаніі. Далейшы іхны лёс аўтару, які ў той час працаваў у аднэй з шматлікіх гандлёвых кантор лёндонскага сіці—невядомы.

Так спыніў сваё існаваньне белагвардзейскі лягер у Ньюмаркэце. Ён нічым асаблівым не вызначаўся ад іншых белагвардзейскіх лягераў, што параскіданы і на выспах грэцкага архіпэлягу і ў Польшчы, і ў Эгіпце, і ў шмат іншых мясцох.

І калі мы расказалі цяпер пра яго чытачом „Чырвонае Беларусі", дык, папершае, таму, што пра гэты лягер у савецкім друку бадай нідзе ня пісалася, а, падругое, яшчэ і таму, што ў гісторыі ліквідацыі ньюмаркэцкага лягеру вельмі ўжо яскрава паказаліся асноўныя рыскі характару ангельскіх (ды і ня толькі ангельскіх) капіталістых: усе сродкі добрыя, абы дасягнуць мэты.

А мэта іхняя—нажыва.

## НАША СТАЛІЦА

**гор. Менск ◆ Савецкая вуліца ◆**



# УДАРНІКІ

НАРЫС Ст. ІВЫ

ФОТО С. ГРЫНА

Неяк здарылася гэта зусім нечакана. Праца пачалася так як і ў ранейшыя дні. Гулі горны, грукалі малаты, зьвінела пераразвонамі жалеза на кувадлах. Каваль Мірон маўчаў, але на яго твары была ледзь прыкметна ўхмылка і часам ён сваім цьвёрдым голасам пачынаў нейкую песенку.

Праплылі рэзкія гукі заводзкай сырэны—абедзены перапынак. У кавальскім цэху абвешчаны агульны сход.

Першае слова на сходзе бярэ Леў Аронавіч. Леў Аронавіч—каваль. Ён 18 год працуе кавалём, яго мускулістыя рукі яшчэ не адчувалі стомы. 18 год ён стаіць каля горна. Леў Аронавіч прыгожа гаварыць ня ўмее. Ён проста, па-рабочаму, бяз выкрунтасаў пачаў:

— Я працую 18 год каля горна, вось за гэтым кувадлам і добра ведаю вытворчасьць. Сёньня мы будзем гаварыць пра соцспаборніцтва. Я лічу, што гэта новае мерапрыемства нам неабходна правесьці. У нас шмат браку, кульгае вытворчасьць працы, высокая сабекаштоўнасьць—усё гэта — нашы ворагі. Ворагі вытворчасьці...

Чацьвертым узяў слова Мірон. Ён сказаў коратка:

— Соцыялістычнае спаборніцтва мы павінны распачаць. Менш гаварыць, больш рабіць.

Кожны рабочы цэху ведаў, што перад ім стаіць задача:

— зьнізіць сабекаштоўнасьць на 25 процантаў,

— палепшыць якасьць продукцыі на 30 процантаў,

— зьнішчыць прагулы,

— узьняць дысцыпліну.

* * *

Здавалася па-новаму загулі горны. Яшчэ мацней загрукалі малаты. Кожны рабочы пачаў пільней прыглядацца да таго, што ён робіць.

Прайшло два тыдні. Мінуў месяц. Рабочыя на практыцы ўбачылі, што ёсьць зрух у вытворчасьці працы. Калі раней два рабочыя пры горне выраблялі сем шчок для паўпудовых ціскоў, дык зараз яны пачалі вырабляць восем такіх шчок, а часам бывае, што які-небудзь горн перараскоча і на дзесяць.

Час ішоў. Рабочыя цэху ад соцспаборніцтва перайшлі да ўдарніцтва. Кавальскі цэх абвясьціў сябе ўдарным. На заводзе цэх ударнікаў заваёўвае аўторытэт. У цэху зьяўляюцца свае вынаходцы.

Стары рабочы-каваль—Кісялёў вынайшоў прыстасаваньне—гнуць падушкі для каменных драбілак (машыны, якія мелюць вапну). Гэта вынаходніцтва дало магчымасьць павялічыць вытворчасьць працы. Калі раней рабочы выгінаў за васьмігадзінны рабочы дзень шэсьць падушак, дык зараз ён выгінае 10 падушак.

Былы малатабоец, які зараз працуе кавалём, Сальнікаў, вынайшоў вельмі добры спосаб прываркі сталі да губак, ціскоў. Да вынаходніцтва Сальнікава кавальскі цэх меў браку (па ціскох у 2—3 пуды) ад 60 да 70 процантаў. Сталь незаўсёды прыварвалася да губак ціскоў. Былі выпадкі, што яна адвальвалася, трысьцілася, давала шчыліны і ў выніку гэтыя ціскі ішлі ў брак.

Цяпер гэтага няма. Кавальскі цэх ня мае такога браку. Зараз у цэху поўнасьцю ўсе горны ўжываюць вынаходніцтва Сальнікава.

* * *

Рабочыя заводу раўняюцца па кавальскаму цэху. Кавальскі цэх зьяўляецца перадавым, ударным цэхам заводу.

За апошнія месяцы кавальскі цэх даў найлепшыя паказчыкі па выкананьню прамфінпляну.

Гэтыя паказчыкі цэх атрымаў ад правільнай арганізацыі працы, ад практычнага ажыцьцяўленьня соцыялістычнага спаборніцтва. Цэх мае наступныя дасягненьні:

— гадавая програма па вырабу ціскоў выканана на 93,3 процанты,

— палепшана якасьць продукцыі на 30 процантаў,

— зьніжана сабекаштоўнасьць па вырабу ціскоў на 27 проц.,

— поўнасьцю зьнішчаны прагулы і

— на 100 процантаў узьнята дысцыпліна працы.

Завод:

— выкананьне прамфінпляну на 104 процанты,

— зьніжэньне сабекаштоўнасьці продукцыі на 29 процантаў (плянам было вызначана 26 проц.),

— продукцыйнасьць працы павялічылася на 35 проц. замест 17 проц.

Бязумоўна, на заводзе ёсьць паасобныя выпадкі з боку рабочых, якія адмоўна адбіваюцца на выкананьні прамфінпляну. Але гэта асобныя выпадкі. У цэлым жа завод прышоў да гадавіны соцспаборніцтва з вялізарнымі дасягненьнямі. Рабочыя заводу прышлі да гэтага вялікага сьвята ня толькі з замацаванымі дасягненьнямі, але яны вынайшлі новыя мэтоды змычкі, наладжваньня цеснай сувязі рабочага з селянінам-колгасьнікам.

* * *

Аднаго разу на агульным сходзе была ўнесена прапанова,—выклікаць на соцыялістычнае спаборніцтва падшэфны куст колгасаў „Комунар" (Бабаўнянскі сельсавет, Копыльскі раён, Меншчына).

Агульны сход пастанавіў:

„Выклікаць на соцыялістычнае спаборніцтва падшэфны нам куст колгасаў „Комунар". Копыльскага раёну".

На другі дзень на агульным сходзе колгасьнікаў чыталася кароткая, усім зразумелая тэлеграма:

ТЭЛЕГРАМА

Бабаўнянскі сельсавет, Копыльскі раён, Меншчына. Колгас „Комунар".

900 рабочых заводу „Комунар" выклікаюць колгасы куста Бабаўнянскага сельсавету на соцыялістычнае спаборніцтва.

Падрабязнасьці ў лісьце.

Заўком"



**Пасяджэньне брыгады.**

З гэтага і пачалося.

Колгасьнікі разам з партыйнай ячэйкай і комсамольцамі шырока абгаварылі выклік комунараўцаў. Пачалася ўпартая штодзенная работа ў колгасах па растлумачэньні значэньня соцспаборніцтва. На дапамогу рабочым і колгасьнікам першай прышла газэта „Беларуская вёска".

Зьявіліся першыя ўдарнікі.

У колгасе „Колас" абвясьціў сябе ўдарнікам і ўступіў у соцыялістычнае спаборніцтва 50-гадовы колгасьнік тав. Сьцяпура. Ён гаварыў:

— Я абвяшчаю сябе ўдарнікам і бяру на сябе абавязкі выканаць усе пункты соцдагавору.

Прыкладу Сьцяпуры пасьледваў комсамолец Вырахоўскі, а на першым сходзе колгасьнікаў у „Чырвоным Пуцілаўцы" да першых двух далучыўся тав. Слабкевіч. Паступова, але без перапынку павялічваліся рады ўдарнікаў. За адзінкамі пасьледвалі цэлыя брыгады. Організаваліся брыгады па паляводзтву, жывёлагадоўлі, будаўніцтву і сада-гародніцтву.

У спаборніцтве на лепшае правядзеньне веснавой сяўбы, на пашырэньне засеву плошчы на 15 проц., на выкананьне аграмінімуму, на лепшую організацыю працы ўступілі колгасы.

* * *

У Менску рыхтаваўся завод.

Рабочыя павялі за сабой на спаборніцтва колгасы. Яны аформілі свае абавязкі ня ў процантах, а ў простых зразумелых лічбах. Яны паказалі свой гаспадарчы плян у колькасьці камнядрабілак, машын, ціскоў, хатніх рэчаў і абавязаліся выканаць гэты плян.

Рабочыя ўзялі на сябе абавязак зьнізіць сабекаштоўнасьць продукцыі на 27 проц. і зьнішчыць прагулы. Гэта абавязацельства рабочых найбольш каштоўна і вельмі важна.

Усе дзевяць колгасаў, якія аб'яднае куст на плошчы 1300 *га*, маладыя, яны нарадзіліся 8—9 месяцаў назад. У колгасьнікаў яшчэ ня выпрацаваліся навыкі колектыўнай грамадзкай працы. Яны маюць патрэбу у вопыце фабрычных і заводзкіх рабочых. І рабочыя з заводу „Комунар“ абавязаліся перадаць свой вопыт і практыку ў організацыі працы і соцыялістычнага спаборніцтва колгасьнікам. Лепшыя ўдарнікі завода паехалі ў калгасы, каб расказаць там, як яны організоўвалі брыгады, і як яны працуюць на сваім прадпрыемстве.

Спаборніцтва рабілася магутным сродкам перавыхаваньня дробных паасобных гаспад рак. Рабочыя заводу „Комунар“ практычна памагаюць колгасьнікам у гаспадарчым і культурна-бытавым абслугоўваньні. Яны рамантуюць для колгасаў сельскагаспадарчыя машыны, поўнасьцю абсталёўваюць пажарную дружыну, папаўняюць бібліотэку і організоўваюць кравецкі гурток. Колгасьнікі адчуваюць пролетарскую дапамогу рабочых.

* * *

Першага Мая адбылася сустрэча рабочых з колгасьнікамі. Першага Мая у Бабоўню прыехала дэлегацыя рабочых, а колгасьнікі накіравалі ў Менск на завод дэлегацыю з лепшых сваіх таварышоў.

І там і тут зацьвярджаліся дагаворы на соцыялістычнае спаборніцтва. У дагаворы колгасьнікаў сказана:

„Мы, колгасьнікі аб'яднаньня колгасаў „Комунар“, вітаем і ад шчырага сэрца прымаем выклік Менскага машына-будаўнічага заводу „Комунар“ на соцыялістычнае спаборніцтва.

Мы, нашы бацькі і дзяды вякамі пралівалі свой пот на панскіх палёх. Кастрычнікавая Рэволюцыя зьмяла з твару савецкай зямлі „магутнага“ пана. Мы ліквідуем кулакоў—„самых зьверскіх, самых дзікіх эксплёататараў“.

Мы здолеем даказаць, што:

„Кожная вёска, адкуль выкурылі абшарніка-эксплёататара і адабралі ад яго зямлю, зьяўляецца цяпер попрышчам, на якім можа праявіць сябе чалавек працы, можа разагнуць крыху сьпіну, можа выпраміцца, можа адчуваць сябе чалавекам. Упяршыню пасьля стагодзьдзяў працы на чужых, паднявольнай працы на эксплёататараў зьяўляецца магчымасьць працы на сябе і прытым працы, якая апіраецца на ўсе заваёвы навейшай тэхнікі і культуры“.

(Ленін).

Мы, колгасьнікі, абавязуемся:

1) пашырыць пасеўную плошчу ў веснавую і асеньнюю кампанію на 15 проц.

2) павялічыць ураджайнасьць палёў на 15 проц.

3) пашырыць плошчу зямлі пад гароды ў два разы.

. . . . . . . . . .

7) скончыць веснавую сяўбу да 25 мая 1930 году.

. . . . . . . . . .

У дагаворы ўсяго зацьверджана 29 пунктаў, у якіх гаворыцца аб экономічным і культурным уздыме колгаснага куста „Комунар“.

Былыя паднявольныя бабаўнянцы з 1920 году, з таго часу як яны выкурылі лютага з самых лютых пана Барнацкага, адчулі сябе людзьмі. І першыя радасныя дні колгаснага жыцьця, выклік рабочых завода „Комунар“ на соцспаборніцтва аднавілі ў памяці былых батракоў успаміны былога праклятага мінулага.

І яны напісалі:

## ЛІСТ ДА ПАНА БАРНАЦКАГА

*Копія пані Траскуляцкай.*

Ці памятаеш ты, пан Барнацкі, свой маёнтак Бабоўню, „далікатныя“ адносіны да батракоў, сваё вясёлае жыцьцё?

Магчыма не. Можа твая панская галава няздольна ўтрымаць усе жудасныя малюнкі зьдзекаў над батракамі? Але мы, твае былыя батракі, не забыліся і ніколі не забудзем іх. Мы парашылі прыпомніць іх табе.

А ці памятаеш ты, як у парваных портках, з голымі каленямі, баязьліва ішлі да цябе ў пакоі батракі атрымаць залатоўку за дзень крывавай работы? Ты сядзіш сабе на мяккай канапе, задраўшы ногі ўгару. Раптам адчыняюцца дзьверы і



**Пішуць ліст да пана Барнацкага**

баязьліва ўваходзяць батракі. Яны ня прышлі да цябе жабраваць. Не! Яны хацелі атрымаць частку таго, што зарабілі потам і крывёю.

Ты можа забыўся як сустракаў іх? Дык вось прыпомні.

Гэта было ў 1919 годзе. Батрак Слабкевіч увайшоў у пакоі да цябе прасіць грошай за работу. Як дзікі зьвер ты крыкнуў на яго выйсьці вон, а блізка знаёмы твой афіцэр схапіў наган і хацеў страляць у яго.

Завошта, пане?

А памятаеш, як па твайму загаду батрачкі ссалі цыцкі ў сьвіньні, а ты сядзеў і заліваўся дзікім зьвярыным сьмехам?

Можа гэта мінулае прымусіць тваю „панскую галаву прыпомніць дзесяткі і сотні яшчэ больш дзікіх і нечалавечых учынкаў.

Так было.

Але гэтага няма.

Дзесяць год мы ходзім па тых сьцежках, дзе ў бытнасьць тваю не дазвалялася хадзіць нам.

А ведаеш, што на зямлі твайго былога маёнтку зрабілі? Ты можа чуў, што ў Савецкім Саюзе організоўваюцца сотні і тысячы колектыўных гаспадарак? Такую гаспадарку організавалі і мы.

Батракі, беднякі, серадзякі—твае былыя прыгоньнікі складаюць цяпер моцнае асяродзьдзе нашага колгасу.

А каб ведаў ты, як вясёла працуюць нашы колгасьнікі. З чырвонымі сьцягамі, на гладкіх конях, з песьнямі выяжджаюць у поле! За пяць дзён колектыўна мы засеялі 30 *га* зямлі бальшавіцкімі зернямі аўса.

Нядаўна рабочыя Менскага заводу „Комунар“ выклікалі наш колгас на соцыялістычнае спаборніцтва. І мы адгукнуліся на заклік рабочых. Нашы старыя батракі—колгасьнікі абвяшчаюць сябе ўдарнікамі на лепшае правядзеньне сяўбы.

А Першага Мая мы сустрэліся з рабочымі, як брат з братам. Рабочыя прыехалі да нас у Бабоўню, расказалі пра сваё жыцьцё, а нашых дзевяць колгасьнікаў—тваіх былых батракоў паехалі ў Менск да рабочых вучыцца пановаму будаваць колектыўную соцыялістычную гаспадарку.

Мы ліквідуем дзікіх эксплёататараў, як і ты, кулакоў, адбіраем ад іх сродкі вытворчасьці, узмацняем і замацоўваем колгасы. Прыдзе час, калі міжнародны пролетарыят канчаткова зьмяце з твару зямлі і вас трутняў.

На гэтым пакуль што канчаем наш ліст. Ты можа ня ўмееш чытаць на нашай „мужыцкай“ мове, дык пакліч нашых братоў мужыкоў з Белавескай Пушчы, з-пад Пінскіх балот, ці рабочых з Беластоку. Яны і думкі нашы думаюць, яны і мову нашу ведаюць.

150 былых тваіх прыгоньнікаў, а цяпер вольных колгасьнікаў“.

Рабочыя пролетары-комунараўцы пачалі спаборніцтва з кустом колгасаў Бабаўнянскага сельсавету, фабрыкі, заводы не адставайце, пераймайце надзвычайна цікавы вопыт комунараўцаў.

Заводы і фабрыкі БССР, слова даецца вам!



НА КАЛОМЕНСКІМ ЗАВОДЗЕ.

# ПА САВЕЦКІМ САЮЗЕ



На Парахавых пушчаны ў ход першы ў СССР камфарны завод.



Споунілася 35 год работы наборшчыка Акадэміі Навук т. Трубэ — адзіны ў СССР, які ведае тыбэцкую і санкрыцкую мову.



Савецкая газа, якая экспортуецца ў Аўганістан, транспортуецца на вярблюдах.

На здымку: Дастаўка газы на вярблюдзе.



Машына на Сясьскім комбінаце, якая забясьпечвае пакавальнай паперай БССР, Украіну і Заходні Край.



Піянэры Масквы ў Цэнтр. Доме Дзіцячага Ком. Руху падрыхтоўваюць наказ дэлегатам міжнароднага зьлёту піянэраў.



Украіна ўзбагацілася ў 1929 г. магутнай кіно-фабрыкай, абсталяванай і пабудаванай паводле апошняга слову амэрыканскай тэхнікі; на фабрыцы адначасова могуць працаваць некалькі дзесяткаў груп і на вялізарнай фабрычнай тэрыторыі яны могуць атрымаць любыя патрэбныя ім пэйзажы, пачынаючы з пустыні, гор, буйных гарадоў і канчаючы морам і вялікімі акіянамі.

На здымках: уверсе: копіравальная машына „Дзебры"—сушка; унізе: разьмеркавальная дошка.



Галоўныя корпусы 2 чаргі Кашырск. электрастанцыі.



# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ



Бурныя тэмпы індустрыялізацыі, шпаркі гаспадарчы рост нашае вёскі на базе соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, выклікаюць нябывалы культурны ўздым шматмільённых працоўных мас. Культурная рэволюцыя, якая адбываецца ў нашай краіне, выклікае патрэбу паляпшэньня і паглыбленьня працы па культурным абслугоўваньні працоўных. У сувязі з гэтым стаіць шырока-разгорнутае будаўніцтва культурна-асьветных устаноў, рабочых клюбаў, тэатраў, кіно і г. д.

На здымку: Пабудова новага тэатру ў г. Бабруйску.



Шырока разгарнулася ў БССР фізкультура. Старыя рабочыя а асабліва працоўная моладзь, зараз шмат увагі зьвяртаюць свайму фізычнаму выхаваньню, правільна разумеючы, што ў „здаровым целе—здаровы дух". Нам патрэбны людзі здаровыя, моцныя, фізычна разьвітыя, для таго, каб перамагаць цяжкасьці і пасьпяхова будаваць соцыялізм.

На здымку: Уяршыню ў БССР, на лыжах у ва[illegible]зе на воднай станцыі саюзу [illegible]рэваапрацоўнікаў у Менску.



На пабудаванай сёлета ў Менску насоснай станцыі.

На здымку: Машынная заля, дзе ідзе перакатка фэкальнай вады з рэзэрвуараў на палі фільтрацыі.



У Віцебску вядуцца падрыхтоўчыя работы для прыёму электраэнэргіі з Асінстану.

На здымку: Пракладка кабелю.

# За мяжой



Бэрлінскія рабочыя сустракаюць т. т. Бургардта і Мэльгорна вызваленых з вастрогу за тое, што яны змагаліся за клясавыя інтарэсы пролетарыяту.




Сход бастуючых вуглякопаў Англіі. На плякаце надпіс: „У працягу 8 тыдняў 3800 вуглякопаў нашае шахты выкінуты капіталістымі на вуліцу. Саюз шахцёраў дапаможа рабочым у іх змаганьні з гаспадарамі".



Сто тысяч індусаў Бамбэю выйшлі на дэмонстрацыю пад лёзунгам: „Байкот ангельскім таварам!". Нацыянальны рух Індыі вырастае ў магутную рэволюцыю.



Вучні гор. Харроу ў Англіі ўзьнялі бунт з прычыны таго, што, пачынаючы з 15 год, іх прымушаюць у абавязковым парадку праходзіць вайсковую муштроўку і быць членам афіцэрскага корпусу. З агульнага ліку 400 членаў гэтага корпусу—300 падпісала ліст да камандзіра корпуса, у якім яны протэстуюць супроць таго, што іх прымушаюць уваходзіць у корпус. На здымку: вайсковая муштра вучняў.



Мітынг протэсту нацыянальнай організацыі дапамогі сьляпым і тав-ва глуханямых Францыі супроць несправядлівага закону, згодна якога глуханямыя і сьляпыя не карыстаюцца грамадзянскімі правамі.



У гонар прыезду ў Польшчу міністра замежных спраў Італіі Грандзі было наладжана ўрачыстае набажэнства ў прысутнасьці пасла рымскага папы Мармагі, міністра замежных спраў Польшчы Залескага і францускіх пасланьнікаў Лярош і Франклін Мартын.

# КНІЖНАЯ ВІТРЫНА

**А. ЛУЖАЕЎ.—Гісторыя аднаго ліцейніка.** БДВ. Менск. 1930 г. 56 стар. Цана 20 кап.




У гэтай кніжачцы аўтар запісаў успаміны старога ліцейніка Івана Ягоравіча Князева, селяніна аднэй з вёсак Маскоўскай губэрні.

Цікавы жыцьцёвы шлях расчыняецца перад чытачом. Вясковае дзяцінства, іконапісная майстэрня, чыгунна-гісэрна-мэханічны завод, першая забастоўка, завод Тыльманса, рэволюцыя 1905 г., беспрацоўе, паліцэйскі вучастак, служба дворнікам у павятовай земскай больніцы, работа шофэрам—вось некаторыя этапы жыцьця, якія расчыняюцца ў гэтай просте напісанай кніжачцы. Тут гаворыць само за сябе жыцьцё, пройдзенае адным працоўным чалавекам.

Успаміны Князева будуць зразумелымі кожнаму рабочаму і селяніну.

**М ЛЫНЬКОЎ. Андрэй Лятун** (зборнік апавяданьняў). Вокладка Б. Малкіна. БДВ. Менск. 1930 г. 197 стар. Цана 1 р. 10 к.




Міхась Лынькоў за апошнія гады высунуўся ў першыя шэрагі маладой беларускай пролетарскай літаратуры.

Новы зборнік апавяданьняў „Андрэй Лятун“ ня толькі не разупэўнівае, а, наадварот, паказвае, як далёка ўперад сягнуў пісьменьнік.

Самыя рознастайныя тэматычныя лініі гэтай кніжкі дапамагаюць аўтару пуката і ярка паказаць чалавека ў яго ўзаемаадносінах з грамадой. Псыхолёгія дзейных асоб плыўка і дынамічна, яна не падпарадкавана „лёсу“, стыхіі, а, наадварот, у большасьці нясе ў сабе вока і мэтаімкнёнасьць для іх перамогі.

Мяккая лірычнасьць і глыбокая задушэўнасьць у абмалёўцы клясава блізкіх нам людзей (стары машыністы Андрэй Лятун, работніца комсамолка Вярунька і інш.), значныя мастацкія якасьці прыемна вылучаюць з агульнае масы мастацкае літаратуры кніжку Лынькова.

**А. ФАДЗЕЕЎ.— „Супроць плыні“.** Апавяданьне. БДВ. Менск 1930 г. 56 стар. Цана 15 кап.




Апавяданьне „Супроць плыні“ адзін з раньніх яго твораў.

Тэма ўпартага і жорсткага змаганьня паміж партызанскай стыхіяй і разумнай клясавай воляй тут падана вонкава, як сутычка дзьвюх сіл у грамадзе. Чырвонаармейскі полк, які нядаўна сформаваны з атраду партызан, узбунтаваўся і пакінуў позыцыі. Ён падыходзіць да пераправы якраз у той час, калі там знаходзіцца савецкі параход. Але камісар своячасова папярэджаны штабам фронту, шэрагам рашучых мерапрыемстваў зьнішчае магчымасьць пераправы.

Унутранае разьвіцьцё твору адсутнічае і апавяданьне зварачаецца ў простае спалучэньне фактаў.

Аднак ня гледзячы на гэта яно з цікавасьцю будзе прачытана.

Шкада толькі, што БДВ заместа „Разгрому“ выдае спачатку раньнія і больш слабыя творы вядомага пролетарскага пісьменьніка.

**С. БУДАНЦОЎ. Форпост Індыі.** БДВ. Менск, 1930 г. 80 стар. Цана 40 кап.




Уціску ангельскага імпэрыялізму ў Пэрсыі прысьвечаны абодвы апавяданьні гэтага зборніка: „Форпост Індыі“ і „Посны месяц Рамазан“.

Але трэба адназаваць, што гэтыя апавяданьні не характэрны для Буданцова. Для яго характэрна пабудова апавяданьня на грунце вострай псыхолёгічнай колізіі, якая абгрунтавана соцыяльнымі здарэньнямі; досыць частае ігнараваньне фабульнага боку твору дае аўтару магчымасьць падкрэсьліць яго псыхолёгічную войстрасьць.

У апавяданьнях гэтай кніжачкі мы маем досыць цікавую соцыяльна насычаную, фабулу. Аўтару ўдаецца некалькімі рысамі паказаць цікавы вобраз.

Кніжка для чытача цікава.

**А. ЛЕОНЦЬЕЎ. — Асноўныя ўстаноўкі пяцігодкі**—БДВ. Менск. 1930 г. 86 стар. Цана 25 кап.

Кніжка Леонцьева ясна і акрэсьлена намячае асноўныя ўстаноўкі пяцігадовага пляну.




Выявіўшы значэньне пяцігадовага пляну гаспадарчага будаўніцтва, аўтар застанаўліваецца на паасобных момантах пляну, вызначае тэмпы і кірунак гаспадарчага разьвіцьця.

У кніжцы дадзена належная ацэнка позыцыі правых опортуністых у дачыненьні да пяцігодкі, паказана ўся беспадстаўнасьць тэорыі бесьперапынных уступак капіталістычным элемэнтам.

У канцы кніжкі зьмешчаны мэтадарасправоцоўкі пяцігодкі для гурткоў бягучай палітыкі, дадзены і невялікі сьпіс літаратуры.

Знаёмства з ёй дапаможа чытачу ўсьвядоміць асноўныя ўстаноўкі пяцігодкі.

**„Тэатральная бібліотэка“.**

**Б. КРАМСКІ.—Помста кулацкая** (п'еса) БДВ. Менск, 1930 г. 8 стар. Цана 8 кап.




**М. ІЛЬЛІНСКІ.—Як Мікіта і Панас працаваць пайшлі ў калгас,** БДВ. Менск, 1930 г. 30 стар. Цана 18 кап.

Дзьве невялікія п'ескі Крамскага і Ільлінскага лёгка могуць быць выкарыстаны любым вясковым драм тычным гуртком.

„Помста кулацкая“ Крамскага схэматычна падае барацьбу кулака з колгасам.

П'еска Ільлінскага, ці, як называе яе аўтар, „сцэнкі для сцэны, у якіх надзеі не падзяляюцца на дзеі“, накіравана на тое, каб паказаць на шкодныя вынікі разбазарваньня жывёлы і нядбайных адносін да падрыхтоўкі да веснавой сяўбы.

Дадатным бокам пакаву Ільлінскага зьяўляецца тое, што ён можа быць разыграны ў любым месцы.

Жвава пададзена і дзея.

**Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва.** **Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.**

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ на 1930 г.

НА ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДЗКА-ПОЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

# МАЛАДНЯК

**8-мы ГОД ВЫДАНЬНЯ**

**ОРГАН БЕЛАРУСКАИ АСОЦЫЯЦЫІ ПРОЛЕТАРСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ**

| | |
|---|---|
| **„МАЛАДНЯК“** | зьяўляецца баявым часопісам у змаганьні за пролетарскую літаратуру |
| **„МАЛАДНЯК“** | на сваіх старонках будзе і надалей рашуча праводзіць цьвёрдую пролетарскую лінію ў галіне літаратуры, рашуча змагацца са ўсялякімі хістаньнямі і ўхіламі, са шкоднымі тэндэнцыямі і варожымі праявамі ў літаратуры |
| **„МАЛАДНЯК“** | будзе даваць аддзел сатыры і гумару (шаржы, пародыі, літаратурныя гумарэскі і фэльетоны) |
| **„МАЛАДНЯК“** | у 1930 годзе дасьць сваім падпісчыкам лепшыя ўзоры пролетарскай літаратуры (романы, аповесьці, поэмы, вершы, драм. творы) |
| **„МАЛАДНЯК“** | у 1930 годзе зьмяшчае шэраг артыкулаў па пытаньнях пролетарскага мастацтва і творчых дасягненьнях беларускай пролетарскай літаратуры, а таксама літаратуры братніх рэспублік |
| **У МАЛАДНЯКУ** | будзе давацца багаты аддзел бібліографіі і хронікі культурнага жыцьця як БССР, гэтак і іншых рэспублік |

## У часопісу бяруць удзел лепшыя сілы пролетарскай літаратуры і марксыцкай крытыкі

**Кожная партыйная і комсамольская ячэйка, клюбная бібліотэка, чырвоны куток фабрыкі і заводу, нардом, хата-чытальня, школа, літгурток—ПАВІННЫ ВЫПІСАЦЬ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ▪ Рабочы, селянін, настаўнік, студэнт, кожны, хто цікавіцца пытаньнямі літаратуры і мастацтва, ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ▪ У 1930 годзе ЧАСОПІС БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ РЭГУЛЯРНА КОЖНЫ МЕСЯЦ на 10 АРКУШАХ.**

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| На год | | На 6 м-цаў | | На 3 м-ца | | На 1 м-ц | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | — | 1 | 60 | — | 90 | — | 30 |

ЦАНА ў розьнічным продажу 40 к.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, агенцтвах, ва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва, усімі аддзяленьнямі „Правда“ і спэцыяльнымі ўпаўнаважанымі Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“.

**ПАДПІСКУ МОЖНА ПАСЫЛАЦЬ у Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ па адрасу: гор. Менск, Комсамольская, 25, або непасрэдна па адрасу рэдакцыі: г. Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменьніка, рэдакцыі „Маладняк“—тэл. 8-77.**

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

**1930 год**

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА на**

| На год | |
|---|---|
| 3 р. | — |

| На 6 м-цаў | |
|---|---|
| 1 р. | 50 к. |

| На 3 м-цы | |
|---|---|
| — | 75 к. |

**ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ 15 К.**

**Часопіс „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ прадаецца ўва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выд-ва, ЦРК, кіёсках контрагенцтва друку і выд. „Праўда“, чыгуначных і паштовых кіёсках, газэтаносцаў ува ўсіх гарадох і мястэчках БССР.**

**24 НУМАРЫ НА ГОД**

**ІЛЮСТРАВАНАЯ ДВУХТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ**

**Адказны рэдактар М. ЧАРОТ**

Адрас рэдакцыі: Савецкая, 79.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** высьвятляе ў мастацкім слове і багатай ілюстрацыі рост і разьвіцьцё соцыялістычнага будаўніцтва БССР і ўсяго Савецкага Саюзу, рэконструкцыю народнае гаспадаркі, посьпехі індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, шляхі культурнае рэволюцыі.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** знаёміць чытача з рэволюцыйнымі падзеямі ўсяго сьвету, а таксама і з важнейшымі зьявішчамі сусьветнай экономікі і культуры.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** зьмяшчае: апавяданьні, вершы, нарысы, падарожжы, фэльетоны, артыкулы з палітычнага, экономічнага, культурнага і мастацкага жыцьця, мастацкія навінкі, ілюстрацыі, рэпродукцыі карцін выдатнейшых мастакоў, а таксама гумарэскі, пародыі, старонкі сатыры і гумару з адпаведнымі шаржамі і карыкатурамі.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** адлюстроўвае ўсё бягучае жыцьцё мастацтва як савецкага, так і сусьветнага, найбольш буйныя зьявішчы літаратуры, тэатру і кіно.

**ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:** Бюро падпіскі БДВ (Менск, Ленінская, 19), Цэнтральная кнігарня БДВ, усе акруговыя аддзяленьні БДВ, кнігарні ЦРК, кіёскі контрагенцтва друку, Беларускае газэтнае бюро, усе паштовыя аддзяленьні, усе лістаносцы як у гарадох, так і ў вёсках, і асобы, якія маюць пасьведчаньні.



Менск, друк. імя тав. Сталіна. зак. № 1140. Галоўлітбел № 1031.